Стар. 3 „У БУДЗЁННАГА“



„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.

# Ніва

№ 40 (84) БЕЛАСТОК, 6 КАСТРЫЧНІКА 1957 г. ГОД II

# З Пленум БГ-КТ

29 верасня г. г. адбыўся II Пленум Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

На Пленум прыехалі не толькі члены ГП, але і актывісты Таварыства, і запрошаныя госці. Былі таксама прысутныя: прадстаўнік камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры ЦК ПЗПР С. Цеслікоўская, прадстаўнік міністэрства ўнутраных спраў А. Лашкоўскі, сакратар КВ ПЗПР Я. Сенкевіч, старшыня прэзідыума ВРН С. Юхніцкі і галоўны рэдактар часопіса «Русский Голос» — П. Юр'еў.

З дакладам на тэму культурна - асветнай дзейнасці БГ-КТ, выступіў старшыня прэзідыума ГП Аляксандр Давідзюк.

— «Зусім няпраўдай — гаварыў старшыня — аказаліся думкі тых, якія гаварылі, што дзейнасць беларускай арганізацыі, якой з'яўляецца наша Таварыства, нікому тут у Польшчы непатрэбная, і што няма тут да гэтага ніякіх умоў».

Рэзультаты дзейнасці Таварыства на працягу няпоўных 2 гадоў, сведчыць аб тым, што яно з'яўляецца неабходным у жыцці беларускага насельніцтва Польшчы.

Арганізацыйная дзейнасць Таварыства ўсё пашыраецца. Сарганізавана 24 самадзейных мастацкіх калектываў — у тым 6 харавых, 3 танцавальных, 10 — драматычных і 3 — дэкламатарскія. Гэтыя калектывы далі 53 выступленні, на якіх прысутнічала каля 20.000 гледачоў.

Дзякуючы ім, насельніцтва нашай краіны мае магчымасць пазнаёміцца з нашай прыгожай беларускай культурай, што непасрэдна прычыняецца да ўмацавання добрага сужыцця і дружбы паміж палякамі і беларусамі.

Пасля даклада вывязаліся гарачыя спрэчкі ў якіх узяло ўдзел 20 чалавек.

Спрэчкі адбываліся вакол чатырох асноўных праблем адносна дзейнасці Таварыства:

1. Характар гурткоў БГ-КТ.
2. Асветна - культурныя справы.
3. Эканамічныя справы.
4. II З'езд БГ-КТ.

Прысутныя дайшлі да вываду, што дагэтуляшні характар працы гурткоў БГ-КТ не здаў экзамену. Замест таго, каб арганізаваць грамадска - культурную дзейнасць у асяроддзях, некаторыя гурткі сталіся нейкімі адміністрацыйнымі ўладамі, праца якіх абмяжоўвалася толькі да рэгістрацыі членаў Таварыства.

— Трэба нам, — гаварыў Барыс Нікіцюк з Гайнаўкі. — працу гурткоў накіраваць на арганізаванне гурткоў мастацкай самадзейнасці і развіццё народнай творчасці сярод насельніцтва.

І гэта вельмі слушна. У нас-жа ёсць вельмі многа таленавітых самародных мастакоў. Чаму-б не заапекавацца імі Таварыству і не даць магчымасці ўсебаковага развіцця ў гэтым напрамку.

Гэтыя вельмі слушныя прапановы знайшлі месца ў пастанове II-га Пленума ГП БГ-КТ, якая забавязвае ГП да шырэйшага арганізавання такіх гурткоў Таварыства, якія будуць займацца мастацкай самадзейнасцю і народнай творчасцю. Дзеля рэалізацыі гэтай прапановы Пленум забавязаў ГП сарганізаваць Культурна - асветную камісію, якая будзе непасрэдна кіраваць працай гурткоў. Пастанова забавязвае ГП паклікаць да жыцця Арганізацыйна - прапагандовую камісію, якая будзе займацца масавай арганізацыяй гурткоў і папулярызацыяй Таварыства сярод насельніцтва краіны.

*(Працяг на стар. 2)*




*У маляўнічай мясцовасці ля вёскі Залессе на Смаргоншчыне (Маладзечанская вобласць), сярод квітнеючага поплава ляжыць вялікі камень. На ім выбіты па-польску два словы:*

*Cieniom Kościuszki*

*Згодна з паданнямі праз гэтыя мейсцы калісьці праходзілі атрады польскага войска, якімі камандаваў слаўны генерал Тадэуш Касцюшка. Тут, паблізу рэчкі, войскі спыніліся на прывал і сам палкаводзец адпачываў, седзячы на камені.*

*На гэтым здымку вы бачыце яго — камень, сведку падзей таго часу.* Фота — А. Траяноўскі

## Насельніцтва Гайнаўскага павета рыхтуецца да святкавання 40 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі

Дзеля таго, каб добра спапулярызаваць сярод насельніцтва значэнне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, у мінулым месяцы па ініцыятыве КП ПЗПР у Гайнаўцы паклікана да жыцця Павятовы камітэт святкавання Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Камітэт, старшынёй якога з'яўляецца сакратар КП ПЗПР — Кастусь Ляшчынскі, распачаў у павеце шырокую дзейнасць. Перш за ўсё навязана сувязь з удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі і былымі чырвонаармейцамі, якія бралі ўдзел у разгроме контррэвалюцыі, а цяпер жывуць у Гайнаўскім павеце. Ёсць іх каля 30 чалавек.

Праз мясцовыя радыёвузлы ўдзельнікі рэвалюцыі перадаюць насельніцтву свае ўспаміны з гарачых Кастрычніцкіх дзён.

Камітэт арганізуе таксама сустрэчы ўдзельнікаў рэвалюцыі з рабочымі прадпрыемстваў і сялянамі павета, дзе старыя ветэраны расказваюць аб незабыўных кастрычніцкіх падзеях.

У гэтым месяцы намечана сустрэча з жыхарамі Нарвы, дзе са сваімі ўспамінамі выступіць былы матрос «Аўроры» — Мартынюк, былы чырвонаармеец Ціхон Трафімюк і былы ўпоўнаважаны ад штаба Ф. Дзержынскага па справах арганізацыі народнай міліцыі ў Нарве ў 1920 годзе — Кастусь Смактуновіч.

Падобныя сустрэчы адбудуцца ў Чыжах, Кляшчэлях, Белавежы і Чарэмсе.

6 кастрычніка адбудзецца ў Гайнаўцы сустрэча ўсіх удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і былых членаў КПЗБ, пражываючых у павеце з членамі бюро КП ПЗПР, сакратарамі КВ ПЗПР, галоўным рэдактарам «Нівы» і «Газеты Беластоцкай».

Павятовы камітэт святкавання Кастрычніцкай рэвалюцыі выдаў адозву да насельніцтва павета з заклікам прыняцця перадкастрычніцкіх працоўных абавязацельстваў. Як першыя на гэтую адозву адклікнуліся працаўнікі ЗСДД.

У гэтым месяцы намечана арганізаваць пры КП выстаўку прысвечаную Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Пры КП ПЗПР сарганізавана таксама спецыяльныя семінары, на якіх партыйныя актывісты павета знаёмяцца з міжнародным значэннем Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Ва ўсіх школах і гарцэрскіх арганізацыях павета адбудуцца ў гэтым месяцы спецыяльныя вечарынкі, прысвечаныя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Варта, каб і другія паветы ўзялі прыклад з Гайнаўкі і добра падрыхтаваліся да святкавання 40 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. (вб)

## 3:0 — 3:1



У мінулую суботу і нядзелю ў Беластоку адбыліся таварыскія сустрэчы па валейболу паміж камандамі «Дынама» — Масква і «Гвардыя» — Беласток.

Абедзве сустрэчы закончыліся перамогай масквічоў (3:0; 3:1).

На здымку: каманда «Дынама». Фота — П. Сіповіч

## Новы беларускі матацыкл

Як паведамляе «Калхозная праўда», у эксперыментальным цэху Мінскага мотавеласіпеднага завода паявілася доследная партыя новых машын. Абцякальныя формы іх, уманцiраваныя ў руль фары, плаўныя абрысы ў спалучэнні з нізкай пасадкай надаюць матацыклам прыгожы, імклівы выгляд.

«М—101» так называецца новая мадэль матацыкла, створаная калектывам прадпрыемства ў гонар 40-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Па ідэі канструктараў яна павінна ўвасабіць апошнія дасягненні гэтай галіны прамысловасці і разлічана на масавага спажыўца.

Матацыклы «М—101» адносяцца да класа машын з рабочым аб'ёмам цыліндраў да 250 кубічных сантыметраў. Двухцыліндравы рухавік развівае магутнасць у 60 конскіх сіл і патрабуе ўсяго 3,3 літра гаручага на сто кіламетраў шляху. Машына развівае скорасць у 110 кіламетраў у гадзіну. Вага яе мінімальная для свайго класа — 130 кілаграмаў.

У канструкцыі матацыкла ўжыт рад канструктыўных наваўвядзенняў. Асабліву цікавасць мае так званае шарыкавае ўключэнне ў каробцы перадач. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што ўсе шасцярні знаходзяцца ў нясынным зачапленні, а тая ці іншая пара ўключаецца, дзякуючы ўвядзенню спецыяльнага шарыка - ўкладыша. Гэта дазваляе вадзіцелю пераключаць скорасці простым націсканнем кнопкі, устаноўленай на рулі. У сістэме электраабсталявання ўжыт пераменны ток, што стварае дадатковыя выгоды ў эксплуатацыі.

У выпадку неабходнасці машына можа быць выкарыстана разам з каляскай.

## 57 год настаўнікам

Кірыла Трафімюк ўжо 57 год вучыць і выхоўвае дзяцей. Больш як поўстагоддя жыцця аддаў ён школе, дзецям, любімай справе. Кірылу Трафімюку — настаўніку сямігадовай школы ў вёсцы Новакорнін (Гайнаўскі павет) 79 год. Сівенькі, як голуб дзядуля, моцна сагнуўшыся, штодзённа ідзе ў школу, каб вучыць чытаць і пісаць самых найменшых школьнікаў, а менавіта I і II класы.

Настаўнік, Кірыла Трафімюк з'яўляецца выкладчыкам беларускай мовы, умела прывівае любоў да свайго роднага слова, да свайго народа. Апрача таго, вядзе ён лекцыі спеву.

Настаўнік Кірыла Трафімюк задушэўна і разам з тым патрабавальна падыходзіць не толькі да дзяцей, але і да ўзрослых. Здабыў сабе паважанне і любоў з боку ўсяго настаўніцкага калектыву сваёй школы, а таксама і ўсіх жыхароў вёскі Новакорнін.

М. Х.

## Гайнаўскі аддзел БГ-КТ арганізуе літаратурны вечар

У гэтым месяцы Гайнаўскі Аддзел БГ-КТ арганізуе літаратурны вечар, прысвечаны 40 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. (вб)

# Што я чуў на Беласточчыне

Не доўгі цягнік імкнецца з хуткасцю, амаль 50-ці км у гадзіну, застаўляючы за сабою чорную істужку дыму. Праз акно вагона відаць рознаколерныя палоскі на роўнай пясчанай зямлі, а на яе прасторы маленькія раздзьмутыя хаткі. Стоячы ў акне, я ўсё стараўся адгануць, што-ж за людзі так бедна жывуць, і не адгануў-бы, каб не ўбачыў укопанага ў зямлю праваслаўнага крыжа, якім відаць апекаваліся тутэйшыя сяляне. Несумненна, была гэта Беластоцкая зямля.

На Цэнтральнай станцыі ў Беластоку прыйшлося мне трохі памучыцца сярод спяшаючыхся на поезды вяскоўцаў. Нарэшце выйшаў каля станцыі ПКС, ды і накіраваўся на тую, як то пісалі ў 30-тым нумары «Нівы», вул. Маніфеста Ліпнёвага. Але дзе-ж мая галава, то-ж тут поле відаць. Тады, калі перайшоў на другі бок станцыі, убачыў вул. Маніфеста Ліпнёвага. На браме перад будынкам, падобным да касцёла, залатымі літарамі на чырвонай дошцы было напісана: «Галоўнае Праўленне БГ-КТ» і побач напіс «Рэдакцыя «Ніва»».

Глянуў на гадзіннік, было позна. Пакруціўся яшчэ па вуліцы Ліповай і вярнуўся на станцыю. Цягнік ужо стаяў.

Па дарозе ў Белавежу, я ўсё ў вагоне падслухваў, хто па якому гаворыць. Гаварылі па-польску, не таго я чакаў. У Бельску перасеўся ў другі вагон і тут мае здзіўленне не мела мяжы, чацвёра маладых людзей, гавораць па-беларуску. Я зараз прысеўся побач аднаго хлопца. Цягнік рушыў, мне думкі хадзілі, як-бы тут з імі пагаварыць, урэшце штурхануў таго-ж хлопца і пытаюся па-беларуску: Ці той поезд ідзе ў Гайнаўку? А ён па-сяброўску зажартаваў.

— А што было-б каб не ішоў у Гайнаўку?

— Кепска! Але за тое вас пазнаў.



*Хатка М. Тарасевіча ў Белавежы*

— Вы мусіць нетутэйшы, так?

— Нетутэйшы, з Кашаліна.

— З-пад мора?

— Так! З-пад мора —адказаў я.

— Да каго вы так здалёк выпусціліся?

Я яму адказаў, што цікавіць мяне беларускае жыццё, ён вельмі здзівіўся! Чаргова я задаваў яму пытанні. — Ці тут многа ёсць беларусаў?

— Ун, бачыце! Гэта ўсё беларусы, — паказаў праз акно вагона парассыпаныя па полі хаткі.

А што робіць у вас беларуская моладзь?



*Сяргей Тарасевіч — Белавежа.*

— От, хто вывучыўся, то паехаў у горад, а хто не вучыцца, то пры бацьках, памагае гаспадарку абрабляць, мае сябры, якіх бачыце, працуюць у горадзе ў Бельску, а зараз вяртаемся на сваю вёску.

— Ці вам не сумна на вёсцы?

— О — не! Каб вы пабылі ў нас з дзень, то пабачылі-б, штовечар збіраемся, гуляем, спяваем, свае песні, «Ніву» нават чытаем, шкада, што канчаюцца канікулы і трэба ісці ў школу.

— Ці можна пацікавіцца дзе то?

— На трэці год хіміі ў Варшаве.

У той момант яго сяброўка седзячы на другой лаўцы штурхнула сваю сяброўку, паказваючы вачыма на мяне, я засмяяўся, а яна засаромілася. Сябра мой змоўк, я таксама не адзываўся. Яго суседзі падняліся і пачалі адзявацца.

— Мы тут сходзім, — загаварыў ён. На развітанне падаў мне руку і жадаў шчаслівай дарогі. Як цягнік рушыў, яны ў чатырох махалі мне рукамі. У Гайнаўцы трэба было чакаць на Белавежскую «матароўку». Зайшоў у буфет, а тут аж прысядае — так сабе падпіў чалавек, а ў буфеце так накопчана, што не ўвойдзеш. Недзе ў куце пачуў беларускую мову, ды бліжэй падышоў і слухаю, як стары, вусаты мужчына расказвае малодшаму аб Монтэ Касіно, як яго ранілі хто яму прышоў на помач, сам хутка закасвае рукаў і паказвае знак на руцэ. У той момант я падступіў да іх, глянуў на руку і кажу: — паважная рана.

— Што смяешся! І даў мне ў рукі жаўнерскія білеты. Чытаю: «Максім Семянюк, — за геройскую...» і раптам зазвінелі медалі. Семянюк выняў іх з-за пазухі даў мне агледзіць.

— Так сыночку! Беларусы ёсць усюды, беларусы змагаюцца і гінуць за шчасце сваё і іншых народаў. Беларусы будуюць агульнае пад агульным прозвішчам.

Хацелася з ім больш гаварыць, але «матароўка» ужо стаяла. Едучы, я заўважыў цікавы момант, што пасажыры, якія ехалі з Беластока да таго часу размаўлялі па-польску, а цяпер — па-беларуску. Па-мойму яны саромяцца ўдзень, як відна.

Як прыехалі ў Белавежу — быў ужо позны вечар, не ведаючы аколіцы, вельмі цяжка было накіравацца дзе-небудзь. Адзін чалавек завёў мяне ў «мысліўскую» і там я пераначаваў. Рана зайшоў у музей і агледзіў разбураны царскі палац. Потым выбраўся ў парк і спаткаў малога хлапчука. Ён мне сказаў, што вучыцца ў пятым класе і ўрокі беларускай мовы маюць тры разы ў тыдзень.

— Дрэнна зрабілі, расказвае хлопчык, — што ў класе 6 вучняў адказаліся ад беларускіх урокаў.

— Кепска робяць — я сам скажу — то-ж урокі беларускай мовы — гэта найважнейшы прадмет для беларусаў. Маладыя шасцікласнікі з Белавежы мусіць не чытаюць «Нівы» — свайго роднага часопіса, бо яна горача прамаўляе да такіх, як яны.

З Мікалаям Тарасевічам пазнаёміў мяне Белавежскі кравец, Грыгаровіч. Коля ў той дзень быў вельмі заняты, бо памагаў бацькам пры падмуроўцы хаты. Але вечарам задаліся мы ў глыбокую размову.



*Царскі палац — Белавежа.*

— У нас беларусы — гаворыць Коля — жывуць згодна, чаго прыкладам ёсць добраахвотная дапамога, якую заахвяравалі нам, пры падмуроўцы нашай хаты.

То-ж я сам не здолеў-бы таго зрабіць. Бульбу нават узаемна памагаюць адзін другому капаць. Адносна культурнага жыцця, то ў нас паважны заняпад, няма ніякіх мастацкіх калектываў, быццам у даваеннай Польшчы. Маладым у галовах пакруцілася, беларускай мовы нават слухаць не хочуць. (Не да ўсіх адносіцца). Паненкі, каторыя хочуць выйсці добра замуж, гавораць па-польску. Старыкі толькі, як спрадвеку пабуджаюць у маладых пачуццё нацыянальнае — не так нацыянальнае, сказаў-бы, як рэлігійнае — гаворыць Коля і я яму даў знак, што ўсё зразумеў, не хацелася мне больш распытваць яго. Рэшту пастанавіў дадумацца.

Белавежа, мне вельмі спадабалася з яе магільнай цішынёй. Але справа беларусаў, засталася мне ў думцы. Пераканаўся я, што на Беласточчыне ёсць беларусы, але ці доўга яны будуць называцца беларусамі?

ГЕНАД БІБІЛА
Кашалін

Рыс, аўтара.



*Белавежскі парк.*

*Парады гаспадарам*

## Асенняе аранне

Пасля капання бульбы гаспадары павінны прыступіць да падрыхтоўкі раллі пад сяўбу яравых раслін. Ралля павінна быць узарана глыбока 20—30 см — у залежнасці ад глыбіні верхняга слою глебы — і на вострую скібу. Глыбока ўзараная ралля запасіць больш зімовай вады і сільней перамярзае, што прычыняецца да паляпшэння яе структуры.

Пры перадзімовым аранні выкідаюцца на верх яйка лічынак (ляр-ваў) шкоднікаў, якія зімою прападаюць. Яшчэ восенню падрыхтаваўшы раллю пад яравыя расліны вясною маем магчымасць тэрмінова правесці сяўбу. (Вялікае тут значэнне мае плыткае аранне іржышча пасля жніва).

Калі перад зімою прыворваем гной (250 цэнт. на га), то лепш выканаць адно аранне прыворваючы гной на сярэднюю глыбіню, а потым, цераз 4 тыдні, выконваперадзімовае глыбокае аранне. Гной, які прыараны на зіму — расліны пасеяныя на весну лепш яго пабіраюць.

З гэтага вынікае, што падрыхтоўка раллі пад яравыя расліны мае вялікае значэнне таму, што ад гэтай падрыхтоўкі залежыць плён яравых раслін, якія будуць пасеяныя на весну. Пры нестараннай падрыхтоўцы раллі плён значна зніжаецца.

Інж. Віталі Мірон.

*Усякая ўсячына*

### Каб сабакі не брахалі

У Англі знойдзена спосаб, на тое, каб сабакі не брахалі і не перашкаджалі суседзям спаць. З гэтай мэтай хопіць даць сабацы антыбрэх таблетку, якую адна вынаходлівая фірма выпусціла на рынак.

У рэкламе гэтых таблетак гаворыцца, што яны ўспакойваюць пабуджаныя нервы сабакі і не выклікваюць сну, толькі мірны настрой.

### Чатыры разы блізнякі

Ізэтта Вільямс з стану Аркансас, Злучаных Штатаў Амерыкі мае чацвёрты раз блізнякоў. Яна мае ўжо разам 14 дзяцей. Сярод блізнякоў 4 дзяўчынкі і 4 хлопчыкі.

### Здальнакіраваны трактар

На адной з выставак у Англіі быў паказаны трактар, які без відочнага дзеяння чалавека араў, адкладваючы ненаганна барозды.

Трактар быў здольнакіраваны пры дапамозе спецыяльнага электроннага апарату.

*Куток гаспадыні*

### Як саліць грыбы

*Саліць можна баравікі, рыжыкі, маслюкі, пліскі (лісічкі).*

*Грыбы трэба пачысціць, памыць. Вялікія паразрэзваць. Чыстыя грыбы пакласці да кіпячай вады, дадаць солі прыблізна 5 дкг. на 1 л. вады і варыць 5 мінут. Потым адцадзіць, астудзіць і ўкладаць у гліняных або драўляных пасудзінах, перасыпаючы соллю. Прыцісвуць грыбы талеркай або драўлянай крышкай.*

### Капуста ў сухарах

Вазьміце ачышчаны качан капусты, разрэжце напалам, пакладзіце ў каструлю, заліце кіпячай вадой, пасаліце. Паварыце 10—15 мінут і зліце ваду. Затым разрэжце кожную палавіну ўдоўж на чатыры — шэсць кавалкаў, добра ўкачайце кожны кавалак у пацёртыя на тарцы сухары (замест сухароў можна пацерці кавалак сухой булкі), пакладзіце кавалкі на гарачую патэльню з растопленым на ёй маслам (сталовым або сметанковым маргарынам). Смажыць трэба, пакуль кавалкі падрумяняцца з абодвух бакоў. Такую капусту можна паліць смятанай і падаваць у якасці другой стравы, або як гарнір да катлет, шніцэля, смажанага мяса і г. д.

ЯНКА ДУБІЦКІ

# РЫБАЛОВЫ

Заўтра ў Яначка вяселле, жэніцца сын На вяселле, па абычаю паклікаў Яначка суседаў. Сусед яго Мікалай — аматар гульні. Але Мікалай, каб не ісці на вяселле з пустымі рукамі, сказаў сынам каб пайшлі і налапалі рыбы. Старэйшы зваўся Ваняй, малодшы — Віцяй. Вось браты ўзялі торбу, кусок хлеба на дарогу, зайшлі яшчэ да сваякоў, скуль таксама пайшло два браты: Грыша і Ваня. Дарога была далёка. Вядома, за чым ішлі аб тым і гаварылі.

— О, якога я бачыў там мянька — сказаў Мікалаяў Ваня.

— А ты думаеш, што я не бачыў — сказаў Грыша. — Тут толькі рыбы, што напэўна налапаем. Ты дакуль будзеш?

— Я?... я да вечара!

Грыша плюнуў і сказаў: — Э, браток! У што-ж ты рыбу будзеш класці, га?

— Каб толькі налапаць — адказаў Ваня і паказаў торбу. — Во, глядзі якая вялікая!

Але вось прайшлі лясок, паказалася рэчка.

— Куды ідзем? — запытаў Віця.

— Вядома куды, у тую ямачку! Там то рыбы! — адказаў яго брат Ваня. Накіраваліся да ямачкі. Рака ў гэтым месцы шырынёй у восем метраў. Глыбіня? Невядома! Ніхто не мераў. Вось сюды і прышлі рыбаловы.

Грыша і Ваня былі старэйшымі ад сваіх братоў. Вось яны раздзеліся, сказалі малодшым братам каб толькі спраўна рыбу адбіралі, і плюснулі ў ваду. Там нашчупвалі рукамі норы і цёгалі рыбу. Торбы хутка напаўняліся.

Грыша, можа яму так пападалася, лапаў крупнейшую рыбу і торба яго хутчэй напоўнілася.

Ваня ўсё ныраў. Па твары можна было ўбачыць, што змучаны. Але што-ж ісці да дому, калі торба не поўна. Нырнуў далей. Вось паказаўся і радасна крыкнуў.

— Але шчупак быў, толькі ўцёк пад другі бераг. Я яго злапаю. Пабачыце! — і адбіўшыся плыў пад другі бераг. Раптам знік.

— Напэўна лапае — гаварыў яго брат Віця. Тымчасам Ваня паказаўся яшчэ раз і знік.

— Хіба вялікі гэты шчупак! — смяючыся далей гаварыў Віця.

Ваня яшчэ раз паказаўся.

— А каб цябе чорт узяў. Ты маеш гэтага шчупака ці не? — дасціпкаваў яго брат.

Двух іншых братоў высыпала рыбу з торбы і лічылі свой палоў. Віця пакінуў глядзець на брата і прысеў ля іх. Тым часам ішлі мінуту. Вада зраўнялася і нідзе нават хвалі не было відаць. Ваня не паказваўся.

Агледзеўшы рыбу, Грыша ўсхапіўся, паглядзеў на ваду і крыкнуў.

— Дзе Ваня?!

Усе былі ўбраны. Толькі адзенне Вані ляжала на беразе. Неяк дзіўна іграў з ёю вецер. То ціха шамятаў яе, то ўзбурана трос ёю. Непадалёку стаяла няпоўная яшчэ торба.

— Ён утапіўся — ціха прамовіў Грыша. Ніхто не верыў. Яшчэ крыху пастаялі і раптам кінуліся бегчы. З дзікім крыкам — ута-а-апіўся! — увар-валіся да суседняй вёскі. Прыбеглі людзі. Ніхто з іх не хацеў лезці. Усе баяліся. Але адзін з іх усё-такі раздзеўся і нырнуў. Потым выплыў і зноў нырнуў. Тым разам трымаў за руку тапельца. Выцягнуўшы прабаваў яшчэ выліць ваду, але было ўжо позна.

Назаўтра ў суседа іграў гармонік, танцавалі, смяяліся, а ў Мікалая ляжаў у труне старшы сын.

Калі Яначкаў сын вёз сабе з Грабаўца жонку, з хаты Мікалая людзі выносілі труну. Увечары ціха было ў хаце Мікалая. Вецер толькі выў у камінах і кот відаць «працаваў» над рыбаю.

У суседняй хаце залівалася гармонія.

Бельск 1957 г.

